## ДАТЫ І ПАДЗЕІ Ў САКАВІКУ

**1 сакавіка** 30 гадоў назад (1965) пачата прамысловая распрацоўка нафты на першым у Беларусі Рэчыцкім радовішчы.

**2 сакавіка**. Сёлета спаўняецца каля 475 гадоў, як Ф.Скарына арганізаваў (каля 1520) у Вільні друкарню.

**3 сакавіка**. 375 гадоў з дня, як горад Друя атрымаў герб: у блакітным полі віціна з разгорнутым ветразем, вада срэбраная.

145 гадоў з дня нараджэння К.К.Савіча-Заблоцкага, беларускага і польскага пісьменніка.

**5 сакавіка**. 40 гадоў назад (1955) Беларускаму дзяржаўнаму тэатру імя Я.Купалы прысвоена званне «акадэмічны».

**7 сакавіка**. 35 гадоў з часу заснавання Беларускай рэспубліканскай навуковай сельскагаспадарчай бібліятэкі імя І.С.Лупіновіча.

**8 сакавіка**. Дзень жанчын. 470 гадоў з часу выдання Ф.Скарынам у Вільні кірыліцкай кнігі «Апостал».

**10 сакавіка**. 75 гадоў з дня нараджэння А.Н.Марціновіча, беларускага пісьменніка.

**11 сакавіка**. Каля 465 гадоў назад нарадзіўся Сымон Будны, філосаф, асветнік, дзеяч рэфармацыі на Беларусі.

**12 сакавіка**. 460 гадоў (1535) упершыню ў пісьмовых крыніцах упамінаецца Шклоў.

**13 сакавіка**. 150 гадоў з дня нараджэння І.А.Бадуэна дэ Куртэнэ (1845—1929), педагога, збіральніка беларускага фальклору, даследчыка беларускай мовы.

**15 сакавіка**. Дзень Канстытуцыі Рэспублікі Беларусь.

95 гадоў з дня нараджэння Х.Ш.Станга (1900—1977), нарвежскага мовазнаўца, даследчыка беларускай мовы.

**18 сакавіка**. 60 гадоў з дня нараджэння А.М.Булыкі, беларускага мовазнаўца, доктара філалагічных навук, членакарэспандэнта АН Беларусі.

**19 сакавіка**. 100 гадоў з дня нараджэння М.Т.Рыльскага (1895—1964), украінскага паэта, перакладчыка беларускай паэзіі.

**20 сакавіка**. 375 гадоў назад (1620) горад Орша атрымаў магдэбургскае права.

**21 сакавіка**. 155 гадоў з дня нараджэння Ф.К.Багушэвіча (1840—1900), беларускага паэта, пачынальніка крытычнага рэалізму ў беларускай літаратуры.

**22 сакавіка**. 25 гадоў з дня адкрыцця Літаратурнага музея Ф.К.Багушэвіча ў Жупранах.

**23 сакавіка**. 425 гадоў з дня выдання (1570) у Заблудаве І.Фёдаравым «Псалтыра з Часаслоўцам».

**24 сакавіка**. 295 гадоў назад (1700) у Магілёўскай богаяўленскай друкарні выйшаў «Ірмалой» — адзін з самых багата ілюстраваных магілёўскіх стардрукаў.

**26 сакавіка**. 365 гадоў назад (1630) у мястэчку Куцейна каля г.Оршы пачала работу друкарня.

**29 сакавіка**. 90 гадоў з дня нараджэння М.Я.Грынблата (1905—1983), беларускага этнографа, фалькларыста, гісторыка.

***У ВЯРХОЎНЫ САВЕТ РЭСПУБЛІКІ БЕЛАРУСЬ***

# Пашкадуйце дзетак!

*Апошнім часам у сродках масавай інфармацыі ўсё больш і больш ігнаруецца беларуская мова. А з наступнага навучальнага года ў беларускамоўных класах запланавана ўвесці абавязковае вывучэнне рускай мовы з першага класа.*

*Мы, настаўнікі пачатковых класаў сярэдняй школы № 16 г.Ліды, рашуча выступаем супраць гэтага. Калі так неабходна вывучаць рускую мову ў нашых школах, то пачынаць мэтазгодна не раней як з пятага класа. Некаторыя з нас (раней усе мы працавалі ў рускамоўных класах) ужо пяты год працуюць у беларускіх класах. Зыходзячы з адзначанага, мы можам зрабіць некаторыя высновы і прывесці аргументы ў абарону сваёй пазіцыі.*

*Усе нашыя дзеткі, якія прыходзяць у першы клас, размаўляюць не па-руску і не па-беларуску, бо адначасова ўжываюць словы дзвюх моў. Так было раней, калі нашыя дзіцячыя ўстановы вялі выхаваўчую работу толькі па-руску. Цяпер дзякуючы таму, што дзіцячыя садкі працуюць у беларускамоўным рэжыме, дзеці, якія прыходзяць у першы клас, у слоўнікавым запасе маюць значна больш беларускіх слоў, чым рускіх. Але ім, маленькім, жывучы ў змешаным беларускарускім моўным асяроддзі, яшчэ вельмі цяжка зарыентавацца, дзе беларускае слова, а дзе рускае. У школе дзеткі пачынаюць усё лепш і лепш авалодваць сваёй роднай і, падкрэслім, дзяржаўнай мовай, якая паступова становіцца правільнай, іншамоўных слоў на ўроках амаль не чуваць. Так адбываецца цяпер, калі руская мова ў першых класах не вывучаецца. Але многія з нас працавалі ў тых беларускамоўных класах, дзе руская мова вывучалася з першага класа. Там вучні блытаюць беларускія словы з рускімі. Асабліва вялікія цяжкасці ўзнікаюць у 3—4 класах: пішучы сачыненні, іэлажэнні, дзеці пастаянна пытаюцца рускае пэўнае слова ці беларускае? У сілу сваіх узроставых асаблівасцей яны яшчэ не могуць свядома адчуць істотную розніцу паміж згаданымі мовамі.*

*Мы звяртаемся да Вас, паважаны міністр адукацыі Васіль Іванавіч Стражаў, да вас, шаноўныя кіраўнікі дзяржавы, да ўсіх бацькоў: пашкадуйце дзетак! Іх здароўе і так аслаблена радыяцыяй, недахопам вітамінаў. Мы бачым, якія зараз кволыя нашы дзеткі. Не патрэбна ім лішняя нагрузка. Гадзіны, што запланаваны на вывучэнне рускай мовы, лепш аддаць на матэматыку, якая цяпер вельмі складаная. А рускую мову можна пачаць вывучаць са старэйшых класаў, дзе дзеці ўжо свядома арыентуюцца ў роднай мове. Мы патрабуем: прыслухайцеся да нас, каму сітуацыя бачна лепш, чым тым, хто праблему распрацаваў у кабінетах.*

*Яшчэ дададзім, што ніхто з нашых бацькоў не супраць беларускай мовы. Людзі, якія жывуць на беларускай зямлі, якія ядуць хлеб, што вырасцілі беларускія рукі, якія спажываюць дары беларускіх лясоў, павінны дасканала ведаць дзяржаўную мову.*

*Мы патрабуем таксама тэрмінова перавесці ўсе навучальныя ўстановы (вышэйшыя, сярэднеспецыяльныя і г.д.) на навучанне на беларускай мове. Мы хочам, каб у нашых дзяцей, якія вучацца па-беларуску ўжо пяты год (а некаторыя і шосты), была будучыня. Жыла, жыве, будзе жыць вечна наша родная мова, якая нам дадзена Богам!*

**А.ГІМІК, А.СВЕЧКО, А.ЗІНЕВІЧ і інш. (усяго 31 подпіс).**
г.Ліда.

***АЛЕ! АЛЕ!***

Гэты зварот рыхтаваўся яшчэ да былых кіраўнікоў вобласці і горада — спадароў Міколы Вайцянкова і Святланы Гальдадэ. Напачатку тэкст мы даслалі непасрэдна ім і аднеслі ў абласную газету «Гомельская праўда» — рэдактару таварышу Валерыю Логвіну.

Азнаёміўшыся са зместам, рэдактар адрэзаў:

— Друкаваць не будзем. Не бачу логікі ў тым, што на старонках абласной газеты мы будзем звяртацца да яе заснавальнікаў — старшыні аблвыканкама.

Старшыні выканкамаў вобласці і горада нам нічога не адказалі. А газета месца для звароту не знайшла, хаця тым, хто выступае супраць беларушчыны, рэдактар месца заўсёды выдзяляе з ахвотай.

За гэты час кіраўніцтва «вертыкальна» памянялася. Таму свой зварот мы адрасуем да цяперашняга начальства: старшыні Гомельскага аблвыканкама П.Шыпука і старшыні Гомельскага гарвыканкама С.Шапавалава.

Шаноўныя Павел Уладзіміравіч і Сяргей Васільевіч! На абласной устаноўчай канферэнцыі ў кастрычніку мінулага года была створана Гомельская абласная арганізацыя Таварыства беларускай мовы імя Францішка Скарыны. Першаснай задача яе — шырокае адраджэнне беларускай мовы і праз гэта ўсёй нацыянальнай культуры.

Абласное ТБМ вітае кожны рух, які спрыяе адраджэнню беларускай мовы, культуры, умацненню дзяржаўнасці Рэспублікі Беларусь. Мы выказваем спадзяванне, што кіраўніцтва вобласці і горада Гомеля, як і ўсе грамадскія арганізацыі і сродкі масавай інфармацыі, будуць рабіць усё неабходнае для падтрымкі гэтага працэсу, бо лічым, што без мовы няма будучыні.

Нас, сяброў ТБМ Гомельшчыны, усіх сумленных грамадзян дзяржавы хвалюе і непакоіць лёс незалежнай Рэспублікі Беларусь. Абурае, у прыватнасці, той факт, што ў вобласці слаба ідзе працэс нацыянальнага адраджэння. Найгоршае тут становішча — у гарадах Гомелі, Мазыры, Рэчыцы, Светлагорску, дзе нават шыльды, аб'явы, рэкламы і паведамленні па-ранейшаму афармляюцца не на дзяржаўнай мове. Ва ўсіх без выключэння гарвыканкамах і райвыканкамах дагэтуль не перайшлі на беларускае справаводства, што супярэчыць палажэнням дзеючага Закона аб мовах.

Далёка не ўсе гарана і рана (у тым ліку абласное ўпраўленне адукацыі) перайшлі на родную мову. Большасць настаўнікаў школ яе ігнаруе, перашкаджае заняць годнае месца ў вучэбнавыхаваўчым працэсе. На вялікі жаль, далёка не ўсе дзіцячыя садкі вобласці і горада сталі нацыянальнымі. Але калі гадаванцы беларускамоўных садкоў і школ пакідаюць сцэны сваіх навучальных устаноў і наведваюць грамадскія месцы, то іх усюды сустракае толькі руская мова. Натуральна, што ў дзятвы нараджаецца недаўменне — у якой дзяржаве яны жывуць, якая тут дзяржаўная мова? Падрываецца вера ў трываласць таго, што закладваюць у іх лепшыя, нацыянальна свядомыя педагогі.

Няма беларускага аўдыёвізуальнага афармлення ў бальніцах і паліклініках горада Гомеля і вобласці, у розных кантарах і ўстановах — як камерцыйных, так і дзяржаўных, у Палацах культуры, у аўтобусах і тралейбусах, цягніках, самалётах, аўтавакзалах, аэрапорце, на чыгунцы, што наносіць непапраўную шкоду працэсу нацыянальнага адраджэння Беларусі.

Чаму гэтага не заўважаюць улады? Чаму яны не прымаюць ніякіх захадаў, каб спыніць згаданы разбуральны працэс?

Ведаем, што паралічанаму ёсць аб'ектыўныя прычыны, нават згодны, што працэс гэты цяжкі, але ж сама аб'ектыўнасць сённяшняга часу адназначна падказвае: іншага шляху ў нашага народа зараз проста няма.

Ад нас стагоддзямі гвалтоўна адбіралі родную мову і да бальшавіцкага перавароту 1917-га і дзесяцігоддзямі пасля яго. А бальшавіцкая ідэалогія слова «нацыяналіст» (у нашым разуменні — сапраўдны, свядомы патрыёт) атаясамляла з паняццем «фашыст». Таму лепшыя людзі БССР згінулі без суда і следства. Значыць, нельга сёння прыняць спасылкі на тое, быццам некага цяпер сілком прымушаюць вяртацца да беларушчыны.

Калі, напрыклад, у Полацкі езуіцкі калегіум, які праіснаваў цэлае стагоддзе, прыязджалі вучыцца з усяго свету, то выхаванцам адводзілася ўсяго паўгода на вывучэнне беларускай мовы, затым менавіта па-беларуску тут выкладалася больш за дваццаць навучальных дысцыплін і прадметаў. Мы лічым, што занадта маруднымі крокамі вяртаецца Беларусь да сваіх забытых, адвечных каранёў. Але не мы ў гэтым вінаваты. Калі ўлады будуць зацікаўлены ў нацыянальным адраджэнні, то ўсю работу трэба весці сумесна і мэтанакіравана, актыўна і настойліва.

Нас непакоіць таксама і той факт, што ў Гомелі, у раёнах вобласці назіраецца татальнае засілле расійшчыны, што праяўляецца ў назвах вуліц і ўстаноў, якія ўшаноўваюць імёны, што не маюць аніякага дачынення да Гомельшчыны ці нават пакінулі адны крывавыя сляды ў яе гісторыі. Што нам, напрыклад, гамяльчанам, гавораць такія імёны і назвы: Свярдлова, Луначарскага, Жданава, Леніна ці Савецкая, Амурская, Яраслаўская, Пралетарская?

Калі ж, нарэшце, гарвыканкам і аблвыканкам пачнуць праводзіць свае сесіі і пасяджэнні на дзяржаўнай мове? Калі беларуская мова праб'е туды дарогу? Чаму б не прыняць аблвыканкаму і гарвыканкаму рашэнне ці пастанову аб атэстацыі чыноўнікаў на веданне дзяржаўнай мовы — зарплату ім жа плаціць дзяржава! Выканкам горада летась разглядаў ход выканання Закона аб мовах, было прынята рашэнне. Але справа рухаецца марудна.

Прыемна, што першыя крокі ў гэтым кірунку ўжо праглядаюцца ў рабоце нашага гарвыканкама. Тут створана кансультатыўная рада «Адраджэнне», якая дапамагае прадпрыемствам афармляць беларускамоўную дакументацыю і інш.

Шмат робіць сёння ў справе адраджэння школы і садкі. Час паказаў, што дзеці з ахвотаю вывучаюць родную мову і ўсе прадметы на ёй. Але калі Прэзідэнт выступіў перад народам на рускай мове, то ў выканкамы адразу ж пасыпаліся пісьмы бацькоў з патрабаваннямі адкрыць у горадзе толькі рускія школы. Многія дырэктары ўзрадаваліся такому напору, нават падахвочвалі бацькоў на падобныя правакацыі.

Нам думаецца, што аблвыканкаму, калі ён сапраўды з'яўляецца народнай, дэмакратычнай уладай на тэрыторыі адной з абласцей Рэспублікі Беларусь, неабходна забараніць тут тыя партыі і рухі, якія выступаюць супраць нашай дзяржаўнасці і супраць дзяржаўнага аднамоўя — маецца на ўвазе Славянскі Сабор (СС) «Белая Русь», «Слаўныя сокалы» (СС) Жырыноўскага і гэтак далей. Варта забараніць і ўжыванне карэспандэнтам і журналістам, якія выступаюць на Беларускім тэлебачанні і на радыё, карыстацца чужой мовай.

Было б таксама пажадана, каб сябры абласной Рады ТБМ прысутнічалі на асобных пасяджэннях і выканкамах, дзе разглядаюцца пытанні мовы і культуры.

Даўно наспела неабходнасць увесці ў апарат аблвыканкама і гарвыканкама штатную адзінку супрацоўніка, які б кваліфікавана кантраляваў выкананне Закона аб мовах.

У кожным раёне вобласці зараз створаны суполкі ТБМ. Мы гатовы прыйсці на дапамогу ўсім арганізацыям і ўстановам, якія будуць весці дакументацыю на дзяржаўнай мове.

Да гэтага ўсіх нас заклікае само жыццё, ад якога мы нікуды не дзенемся. Скончыць хочам заклікам: «Прыхініцеся да роднай мовы, да Божага!»

**Анатоль БАРОЎСКІ, пісьменнік, старшыня Гомельскай абласной Рады ТБМ,**
**Валянціна БАШЛАКОВА, старшыня Гомельскай гарадской Рады ТБМ.**

# *Прыхінёмся да Божага!*

РУПЛІЎЦЫ

# НАСТАЎНІКІ

З кожным годам усё больш руплівцаў роднага слова ў нашым асяроддзі, тых, для каго адраджэнне беларускай мовы, гісторыі і культуры становіцца сэнсам жыцця. Шмат хто з іх амаль невядомы шырокай аўдыторыі, пра іх рэдка гавораць і пішуць. А яны варты і падзякі, і добрага слова.

Пачну з гісторыі, успомню працаўнікоў асветы, хто пачынаў патрыятычнае служэнне яшчэ ў 80-я гады. Найперш пра Капусцінскую Валянціну Апанасаўну — былога дырэктара 108-й сярэдняй школы г.Менска. Цяпер яна — пенсіянерка, але пайшла выкладаць беларускую мову і літаратуру. Гадоў 12—13 таму менавіта ў 108-й школе быў адкрыты беларускі клас, з-за чаго дырэктар мела шмат непрыемнасцяў. Тады яшчэ не было Закона аб дзяржаўнасці беларускай мовы, не было ТБМ. Чыноўнікі ад адукацыі і партыйныя функцыянеры не давалі кіраўніцтву школы жыцця: па 8 праверак на год, прыдзіркі, вымовы дырэктару, абвінавачванні ў нацыяналізме. Чалавек неабыякавы, Валянціна Апанасаўна наперажывалася тады так, што цяжка і доўга хварэла.

У гэтай жа школе працуе яшчэ адзін вялікі энтузіяст беларушчыны — выкладчыца біялогіі Зоя Ясееўна Плятніцкая. Яна расіянка, бацька яе ваенны ўрач. Сама вывучала нашу мову, цудоўна ёю валодае. Не толькі выкладае на беларускай мове, а і ўсе мерапрыемствы, класныя гадзіны праводзіць толькі па-беларуску.

Не адзін год узначальвае Менскі педагагічны каледж (раней педвучылішча № 2) Аркадзь Адамавіч Брылькевіч. Яго намаганнямі, мэтанакіраванай працай гэтая ўстанова ўжо не першы год вядзе навучанне на роднай мове. Каледж цяпер асяродак беларускасці, тут прыемна вучыцца і працаваць: менавіта тут выхоўваюцца сапраўдныя патрыёты Радзімы-Беларусі.

**Алесь ЧЭЧАТ,**
**сябра Рады ТБМ, выкладчык беларускай мовы і літаратуры Менскага педагагічнага каледжа.**

Меркаванні

***Прачытаў меркаванне Л. Раманенкі «Удасканаленню — «так», але барані Божа ад рэфарматараў» («НС», № 2, 1995). Сапраўды «настаўніцкі» аргумент — не трэба тарашкевіцы, бо ў адным слове можа стаць ажно чатыры мяккія знакі! А ў расійскай граматыцы сустракаюцца больш «страшныя» рэчы — тры літары «ё» ўзапар: «длинношеее животное». Я ўжо пенсіянер, а значыць таксама выхаваны й вывучаны на наркамаўцы, але ужо цяпер рыхтуюся, каб хоць перад сконам годна здаць экзамен на веданне тарашкевіцы, лацінкі й другой, якой заўгодна, але нашай, нацыянальнай граматыкі, якую ўзаконіць Вольная, Незалежная Рэспубліка Беларусь. Я хачу й на гэтым і на тым сьвеце адчуваць сябе Беларусам.***

**Міхась ВАРАЦІЛА.**
г.п.Краснасельскі, Гарадзеншчына.

# Зноў аб правапісе

***Ад рэдактара.*** Па логіцы шаноўнага спадара Міхася выходзіць: калі нехта ўвогуле па нейкай прычыне не ведае граматыкі, дык ён ужо і не беларус? Нічога сабе спрэчка атрымліваецца. Я ўзяў на сябе па абавязку рэдактара смеласць зняць тыя выразы, дзе шаноўны спадар Міхась у запале, відаць, палемікі пераступае мяжу такту ў адносінах да апанента, няхай сабе ён і піша, што гатовы, каб за тое з яго спаганялі ў судовым парадку 9 999 999 рублёў за абразу. Справа ж нават не ў грашовых выдатках, а ў тым, што абраза — не той сродак, каб можна было ўмацоўваць беларускую грамаду. А без гэтага можа так стацца ў самы блізкі час, што хоць якую беларускую граматыку беларусам давядзецца вывучаць у самадзейных гуртках.

Сумняваюся таксама, каб хоць адзін цвярозы і дальнабачны палітык уключыў у сваю перадвыбарчую праграму абавязацельства, калі прыйдзе да ўлады, загадным дзяржаўным шляхам увесці дзеля ўсіх сваю найбольш любімую граматыку. Тыя з яго прыхільнікаў, якія гэта будуць старацца ўвесці ў вушы выбаршчыкам, зробяць свайму кандыдату сапраўды «мядзведжую» паслугу. Успомнім хаця б нядаўні вопыт выбараў прэзідэнта.

Канешне, у сталінскія часы быў груба парушаны нармальны, дэмакратычны працэс і ў гэтай важнай сферы, пра якую ідзе гаворка. Тым не менш трэба мець на ўвазе, што ў далейшым насуперак усім рэпрэсіям з боку ўлады граматыка, правапіс імкнуліся развівацца па законах здаровага сэнсу. Бо, заўважце, нават тыя пісьменнікі-падхалімы, якія служылі не народу, а рэжыму і імкнуліся дамагчыся вядомасці, славы (а з імі і матэрыяльнага дабрабыту), спецыялізуючыся на ўслаўленні «мудрасці партыі» і яе правадыроў, ніяк не маглі абысціся без пэўнага ўзроўню майстэрства. Коснаязыкі літаратар і камуністычным бонзам быў непатрэбны, няхай бы нават ён умудраўся ў кожным радку ўстаўляць клішэ «Слава КПСС!» і да т.п. Майстэрства ж (ці няхай проста рамесніцкае спрытнае ўмельства валодаць моўным інструментам) вымагала такой лексічнай пабудовы фразы, радка, якая б па меншай меры прыязна ўспрымалася масавым чытачом — інакш прапаганда і агітацыя сродкамі літаратуры не толькі не мела б сэнсу, а магла выклікаць адмоўную рэакцыю, ажно на ўзроўні падсвядомасці. Нездарма ж і сірэны пагібелі павінны ўмець прывабліваць, соладка спяваць. У сваю чаргу і сумленныя пісьменнікі клапаціліся пра майстэрства, а значыць шукалі, як фразу зрабіць прыгожай, вабнай для чытача, што таксама патрабавала не толькі адбору адпаведнага лексічнага матэрыялу, але і ўдасканалення натуральнасці правапісу.

Такім чынам за многія дзесяцігоддзі майстрамі мастацкай літаратуры аказалася прароблена гіганцкая праца па развіцці культуры пісьма. Не браць цяпер гэтага пад увагу, выкінуць, як некалі бальшавікі-літаратары культурныя набыткі ненавіснага ім дваранства, з «карабля сучаснасці» і рашуча вярнуцца да пачаткаў, бо толькі там — «чыстае і сваё»? Канешне, калі зноў паступаць па-бальшавіцку, то што ж... Бальшавікі многае рабілі не вагаючыся. Вынік вядомы. А калі ўлічваць жывую рэальнасць? Калі паважаць ды сур'ёзна браць пад увагу прыроду развіцця чалавечага грамадства?

У «Нашым слове» было надрукавана некалі гутарак са спецыялістамі — знаўцамі асноўных моў Заходняй Еўропы. Звернем увагу: ніводная з іх не абышлася без значнага ўплыву заваёўнікаў, не кажучы пра культурныя даčыненні з суседзямі, і ніводная мова потым, пасля набыцця нацыяй незалежнасці, не здолела вярнуцца да першапачатковага стану, хоць такія спробы і рабіліся. Відаць, і ў гэтым выпадку застаецца існым афарызм старажытнага філосафа: у адну раку нельга ступіць двойчы. Гэта, канешне, разумеюць і тыя, хто спрабуе рэанімаваць тарашкевіцу: нават такі падрыхтаваны яе адэпт, як Вінцук Вячорка, прапануе ў ёй свае ўдасканаленні, іншыя — свае.

А ўвогуле варта было б прыслухацца і да майстроў мастацкай літаратуры. Напрыклад, да такога выдатнага стыліста і знаўцы роднай мовы, як народны пісьменнік Беларусі Янка Брыль. Нядаўна, выступаючы на абмеркаванні часопіса «Першацвет» прэзідыумам рады Саюза пісьменнікаў, ён сказаў, у прыватнасці, наступнае: «Што ж тычыцца тарашкевіцы, дык з усіх вас, прысутных, здаецца, адзін я па тарашкевіцы вучыўся. І гэта, паверце, не тая тарашкевіца, якую цяпер мне пад нос сунуць. Паланізмы бясконцыя сунуць! Самыя наглыя паланізмы ідуць пад выглядам тарашкевіцы. Калі ёсць, напрыклад, два словы ў польскай мове (украсць і скрасць), дык маладыя ўжо і пішуць: «скраў карову». Чаму гэта я павінен праз правае плячо левае вуха чухаць?! І ўжо да такога даходзяць часам: «мэталёлём»! Во як. Ужо лём, значыць! Нам трэба пісьменная літаратурная мова. Хай будуць адхіленні (Іван Паўлавіч Мележ, скажам, даў харошы прыклад у гэтым сэнсе), на здароўе! Мы вось-вось дабіваемся сапраўднай літаратурнай мовы, дык навошта ж яе каржэкаць такімі вось «мэталёлёмамі»?.. Пачуццё меры трэба ва ўсім» (гл. «ЛіМ», 20.12.94).

Сапраўды, такім вось «лёмам», калі яшчэ ў дадатак карыстацца ўладным механізмам, можна наламаць дроў багата. Ім жа вельмі проста нашкодзіць дэмакратычным працэсам, пра што згадана вышэй.

Паміж тым, ці так ужо наш сённяшні правапіс збядненлы на азначэнне мяккасці (хаця ў пераважнай большасці высокаразвітых заходнееўрапейскіх моў яно ўвогуле на пісьме ніяк не азначаецца)? Я задаўся такім пытаннем раптам, калі ў 5-м нумары «ЛіМа» дачытваў цікавы артыкул Васіля Аўраменкі «Рэлігія і атэізм». Заканчэнне яго было на 4-й старонцы і там, магчыма, пад уплывам прачытанага, па нейкай асацыяцыі я «візуальна» стаў вылучаць словы з графічным азначэннем мяккасці. А потым некалькі найбольш цікавых выпісаў. Цікавых тым, што ні ў іхнім расійскім варыянце, ні ў «заходнееўрапейскім», само сабою, мяккіх знакаў не было. Так я пераглядзеў, прыкладна, 2/3 ЛіМаўскай паласы, дзе ўмясцілася каля шасці машынапісных старонак тэксту, і вось якія словы адтуль выпісаў (не беручы інфінітыўных форм дзеяслова): *артадаксальнасць, актуальнасць, альбо, альманах* (alma — лат.), *Алесь, барацьба, больш, Брыль, Беларусь, вельмі, Вольга, Вільня, Васіль, здольнасць, каліcьці, утульна, ментальнасць, правільна, супольнасць, інтэлектуальна, натуральна, маральна, рацыянальна, здольнасць, нацыянальнасць, намінальна, спрыяльна, культурна* (culture — лат.), *пяцьдзесят, памяць, сучаснасць, прыхільнік, студзень, дзень, раньш было, пісьменнік, Сянько, скрозь, маладосць, прыймальна, эмацыянальна*... Магчыма, я не ўсе такія словы і заўважыў. Выпісваючы, убачыў, што пастаўлены ў радок адно за другім (спачатку я хацеў іх размясціць у альфабэтным парадку), словы ажываюць, набываюць новы сэнс, нават падтэкст, выклікаюць асацыяцыі. Цудоўная рэч — наша беларускае слова! Не варта толькі выкарыстоўваць яшчэ і яго дзеля расколу беларусаў на «чыстых» і «нячыстых» — у залежнасці ад правапісных прыярытэтаў. Няхай бы правапісам займаліся вучоныя-лінгвісты. Але барані і іх Божа ад палітычных гульняў!

**Эрнэст ЯЛУГІН.**

У ГАЗЕТАХ

# Віцебскія дэпутаты заклапочаны моўнай сітуацыяй у Прыдзвінні

Абласная незалежная газета «Віцебскі рабочы» (№ 17) да пяцігоддзя прыняцця Вярхоўным Саветам БССР Закона аб мовах змясціла на першай паласе Зварот пастаянных камісій абласавета па развіцці навукі, адукацыі, культуры і справах моладзі ў сувязі з ходам выканання згаданага закона ў Рэспубліцы Беларусь. Тэкст звароту быў надрукаваны і другой абласной газетай «Народнае слова».

Як стала вядома нашай рэдакцыі, праект дакумента распрацавалі актывісты Віцебскай арганізацыі ТБМ імя Ф.Скарыны Язэп Навумчык, Янка Тышка, Міхась Крывенка. У звароце адзначана: паводле перапісу 1989 года ў вобласці жыве каля 80 працэнтаў беларусаў, амаль усе з іх лічаць беларускую мову сваёй роднай. Але валодае ёю значна меншая частка карэннага насельніцтва, і апошняя акалічнасць дэмагагічна выкарыстоўваецца для антынавуковага доказу таго, што нібыта самі беларусы добраахвотна адмовіліся ад роднай мовы. У тэксце таксама падкрэслена: зусім не адпавядаюць сапраўднасці сцвярджэнні, што быццам бы на Віцебшчыне ажыццяўляецца забарона вучыцца на рускай мове. Так, афіцыйныя лічбы сведчаць, што на беларускай мове тут вучацца толькі крыху больш за трэць усіх вучняў, у той час як на рускай — 64 працэнты. У сувязі з гэтым, гаворыцца ў тэксце, заявы некаторых палітычных сіл аб антырускай істэрыі на Беларусі з'яўляюцца абсалютна беспадстаўнымі і правакацыйнымі.

Дэпутаты абласнога савета далей звяртаюць увагу прадпрыемстваў, арганізацый і ўстаноў, інтэлігенцыі, бацькоў, студэнтаў і школьнікаў, усіх грамадзян Прыдзвіння, што штучнае стварэнне напружанасці вакол моўнага пытання ідзе не на карысць нацыянальнаму адраджэнню. Яны заклікаюць да паслядоўнага выканання ўсіх палажэнняў Закона аб мовах, каб беларускае слова стала, урэшце, родным у кожнай сям'і, у кожным працоўным калектыве.

Такім чынам, дэпутаты Віцебскага абласнога савета падалі добры прыклад глыбокага аналітычнага разумення моўнай сітуацыі, якая зараз характэрна для пераважнай большасці беларускіх рэгіёнаў.

# Нормы Канстытуцыі — абавязак для ўсіх

Адной з першых беларускіх газет, якія тлумачылі намер нашага Прэзідэнта правесці рэферэндум па пытаннях змены дзяржаўнай сімволікі Рэспублікі Беларусь і ўводу расійскай мовы ў якасці другой дзяржаўнай, стала менская незалежная «Свабода». Адзначым, што разавы наклад яе апошнім часам значна вырас і зараз ужо складае 60 тысяч паасобнікаў.

Пад рубрыкай «Ліст у рэдакцыю» «Свабода» (№ 6) змясціла допіс супрацоўніка Інстытута гісторыі АН Беларусі Лявона Калядзінскага «Прэзідэнту закон не пісаны?». Аўтар падкрэслівае, што згаданае жаданне Прэзідэнта яўна супярэчыць Закону Рэспублікі Беларусь аб дзяржаўным гербе (прыняты 19 верасня 1991 года) і Палажэнню аб дзяржаўным гербе (прынята 10 снежня 1991 года). А таксама артыкулам 15 і 54 дзеючай у краіне Канстытуцыі, дзе ясна запісана, што дзяржава з'яўляецца адказнай за захаванне гісторыка-культурнай спадчыны і кожны грамадзянін абавязаны берагчы нацыянальную спадчыну.

Наш герб, натуральна, якраз і належыць да адной са святынь гістарычнай народнай спадчыны. На заканчэнне сп. Л.Калядзінскі ставіць пытанне: «Ці то для шаноўнага Аляксандра Рыгоравіча закона няма?»

Да гэтага матэрыялу тэматычна блізкім з'яўляецца адкрыты ліст, накіраваны Старшыні Вярхоўнага Савета Рэспублікі Беларусь Мечыславу Грыбу сябрамі Вучонай рады Інстытута гісторыі АН Беларусі, які публікуецца ў тым жа нумары.

Дзевятнаццаць вядомых, аўтарытэтных у краіне гісторыкаў (дактары і кандыдаты навук) на чале з дырэктарам Інстытута, членам-карэспандэнтам АНБ М.Касцюком выказваюць занепакоенасць у сувязі з тым, што ў сродках масавай інфармацыі распачата шырокая кампанія неабгрунтаваных нападак на дзяржаўную сімволіку Рэспублікі Беларусь з патрабаваннямі яе перагляду. Таму навукоўцы палічылі неабходным давесці да ведама сп. М.Грыба змест пастановы Вучонай рады свайго Інстытута, прынятай яшчэ ў 1991 г.

Нагадаем, што ў гэтым дакуменце доказна, абапіраючыся на неабвержныя факты, зроблена адназначная выснова: герб «Пагоня» і бел-чырвона-белы сцяг — адзіныя гістарычныя сімвалы нашай Бацькаўшчыны. Між іншым, навукоўцы тады ж выказалі меркаванне, што нашай сталіцы мэтазгодна неадкладна вярнуць яе старадаўняе імя «Менск».

У адкрытым лісце падкрэслена, што навукоўцы Інстытута сёння не маюць ніякіх падстаў сумнявацца або мяняць сваю думку наконт гістарычнай абгрунтаванасці існуючай зараз дзяржаўнай сімволікі.

**М.В.**

Мікалай КРЫЎКО

# СЛОЎНІК СІНОНІМАЎ

2. **ПЕРАВА́ЖНА** (ужываецца, каб указаць на перавагу, якая аддаецца каму-, чаму-н., або каб выдзеліць каго-, што-н. у якіх-н. адносінах) *Шапку [Коля] насіў пераважна вайсковую і казырок насоўваў на вочы* (Кулакоўскі). *Пад восень ён [мядзведзь], як і дзік, пераходзіць пераважна на жалуды і крушыну, якая расце ў вялікай колькасці па берагах лясных рэчак* (В.Вольскі). *Таццяна дамаглася, каб той адкрыў на яе імя рахунак у ашчадкасе, і ўклады пераважна рабіла на гэты рахунак* (Карпаў), **ГАЛОЎНЫМ ЧЫНАМ** *Яго цікавіла, галоўным чынам, усё, што датычылася лесу і пастуховае справы* (Колас). *Спецыялізаваўся ён [Пашчыкаў], галоўным чынам, на партрэтах, і гэта давала немалы заробак* (Лось). *Вашамірскі апавядаў розныя прыгоды.. галоўным чынам пра паляванне на мядзведзяў* (Бядуля), **У АСНОЎНЫМ** *Гістарычна вядомая асоба выступае ў творах аднабакова, характарызуецца ў асноўным толькі з боку дзелавых якасцей, іх адпаведнасці займаемай пасадзе* (Дзюбайла). *Стылявое багацце рамана-эпапеі Лынькова выцякае ў асноўным з уласцівай творчай індывідуальнасці пісьменніка здольнасці набліжаць сваю мову.. да мовы сваіх герояў* (Дзюбайла), **БОЛЬШ ЗА ЎСЁ** *Больш за ўсё [Грышка] любіў задачы, Тут заўсёды меў удачы* (А.Александровіч). *Другі «ён» — гэта іхні сын, падлетак, ужо самастойна бегае па даручэнню мацеры ў хлебны магазін, але больш за ўсё любіць хадзіць усюды з бацькам* (Кулакоўскі), **(УСЁ) БОЛЬШ** разм. *Ды так, іду туды, куды пашлюць, раблю тое, што загадаюць, а больш пры кухні ды пры шпіталі аціраюся* (Шамякін). *Яна расказвала, але больш не пра радаснае — пра цяжкасці* (Шамякін).

3. **ПЕРАВА́ЖНА** (ужываецца для ўказання на перавагу ў кім-, чым-н. якой-н. прыметы, уласцівасці і пад.) *Калі кравец Самабыль увасабляе сялянскасць, то Самабыліха з'яўляецца чалавекам пераважна універсальным* (Колас). *На самай справе «Журавінавы цвет» мае пераважна рэалістычна-бытавы каларыт* (Бугаёў); **ГАЛО́ЎНЫМ ЧЫ́НАМ** *Ды і паліва складалася галоўным чынам з гэтай марской травы* (Маўр). *Пісьмовая мова — гэта пераважна мова маналагічная, вусная ж — галоўным чынам дыялагічная* (Юргелевіч), **ПЕРШ ЗА ЎСЁ** *Ён перш за ўсё філосаф*, **У АСНОЎНЫМ** *Непавага да людзей у ім заўважалася з маладосці, у асноўным такім жа ён і застаўся* (Чорны).

**ПЕРАВА́ЖЫЦЬ** (перасягнуць у вазе, аказацца цяжэйшым; апусціцца ніжэй пад уздзеяннем большага цяжару) *Падышла і моўчкі ўссела на кончык заслона Паўлючыха. Злёгку падчэкнулася — ці не пераважыць* (Міська). *З ёю [Яняю] паважна, адхіляючыся назад, быццам круглае пуза магло пераважыць, рухаўся галыш.. Юрась Кагут* (Караткевіч), **ПЕРАЦЯГНУ́ЦЬ** *Банжын думае раму партала, на якой будзе стаяць і вежа, і электраматоры, падняць наверх у гатовым выглядзе. А пад'ёмнік.. абавязкова перакуліцца. Рама цяжэйшая — перацягне* (Шыцік). *Распалавіню я шар зямны На дзве трывожныя шалі: Ці не пераважаць спрэчку яны, Што доўга мы вырашалі? Павернецца пал крыўдлівай спіной, Час непадкупна заўважыць, З тваёю шаля, З маёй вінoй, Каторая пераважыць* (Барадулін) // (аказацца больш важкім, атрымаць перавагу, перасіліць, перамагчы ў чым-н.) *Але калі боязнасць за каровы пераважыла над спалохам перад раз'юшанаю стыхіяй за сваю ўласную асобу, ледзь не ўсё сяло высыпала ў поле* (Мурашка). *Сойка зноўку: — От вазьмуся, Пераважу ўсіх я вас. — Стала мэкаць, як бекас* (Белавус). *[Пустэльнік:] — Ты такі грэшнік, што цябе смерць не возьме, зямля не прыме, пакуль ты свае грахі на гэтым свеце не адпакутуеш, пакуль ты не зробіш столькі дабра, каб яно твае грахі пераважыла* («Казкі і легенды роднага краю»). *— Хоць я бровы ў сажу ўмажу, Братавую пераважу* (з народнай песні). *Незнаёмы. Хто самахоць не пойдзе, над тым праклядцце завісне, бо на сходзе жыццё мільёнаў будзе важыцца, а ў такіх вялікіх справах і адзін чалавек можа сабой сюды ці туды перацягнуць* (Купала). *І калі паставіць Комліка і Кашына побач, то хто перацягне?* (Карпаў). — *Незакончанае трыванне:* **Перава́жваць, пераця́гваць**.

**ПЕРАВЕ́СІЦЦА** (нахіліўшыся цераз што-н., павіснуць) *Лявон перавесіўся ў акно, сам дастаў газету* (Кудравец). *Таркайлава цела перавесілася з насцілу, упала з невялікай вышыні ў мелкую, на каменьчыках, плынь* (Караткевіч), **ПЕРАВА́ЖЫЦЦА** *[Алег:] — Выйдзі сюды. — Зараз. А што такое? — Саша пераважыўся цераз парэнчу балкона. — Тут скажу...* (Ярашэвіч), **ПЕРАВІ́СНУЦЬ** *Хлапчукі, перавісшы цераз парапет, усхвалявана крычалі, давалі нейкія парады* (Вежынаў). *Перавісшы вясёлкамі, Б'юць у неба струмені* (Гілевіч), **ПЕРАГНУ́ЦЦА** *Ён [Міхалей] аж перагнуўся праз плот. Ды так, што на панадворку толькі ногі тырчаць засталіся* (Хадановіч). *А Ганначка перагнулася тым часам цераз левы борт і пялёхтаецца ручкамі ў вадзе* (Брыль). *Верка перакінула салому цераз перагародку, перагнулася, каб яе там разраўняць* (Гаўрылкін), **ПЕРАХІЛІ́ЦЦА** *Сіўцоў з трэскам адчыніў акно і, перахіліўшыся цераз падаконнік, нейкі час глядзеў уніз* (Васілевіч), **ПЕРАХІНУ́ЦЦА** разм. *Косцік высунуў галаву ў брызентавыя дзверцы, аж перахінуўся цераз борт, каб паглядзець, як немец аб'язджае машыну* (Арабей). *[Таццяна] ужо і цераз варотцы перахінулася, каб кручок скінуць, ажно пачула, што яе гукае са свайго гарода Каця* (Гіль). — *Незак.:* **Перавéшвацца, перава́жвацца, перавіса́ць, перагіна́цца і перагіба́цца, перахіля́цца, перахіна́цца**. — *Параўнайце:* **П е р а г н у́ ц ц а**.

P.S. Да пададзеных гнёздаў сінонімаў нашай мовы ў англійшчыне адпаведных няма.

## Гісторыя моваў на Беларусі

***Працягам артыкула Эдварда Зайкоўскага пра дакірылічнае пісьмо на Беларусі стане нарыс старшага навуковага супрацоўніка Інстытута гісторыі АН Беларусі, кандыдата філалагічных навук Уладзіміра Свяжынскага пра моўную сітуацыю ў нашай краіне ад XIV стагоддзя. Ён скрупулёзна вывучае гісторыю беларускай мовы — дзяржаўнай мовы Вялікага Княства Літоўскага. Але, як сапраўдны навуковец, Уладзімір Свяжынскі не абышоў і стан моваў усіх этнічных груп, якія знайшлі сабе прытулак у нашай дзяржаве. Таму і абрана такая рубрыка. Сёння — пачатак.***

**Уладзімір СВЯЖЫНСКІ**,
*кандыдат філалагічных навук.*

# УСТУП. АСНОЎНЫЯ ПАНЯЦЦІ САЦЫЯЛІНГВІСТЫКІ

Мове, як і любому іншаму аб'екту рэчаіснасці, уласцівы катэгорыі структуры і функцыі. Структурны бок мовы — сістэма пісьма, граматычны лад, лексічны склад — вывучаюцца адпаведнымі традыцыйнымі мовазнаўчымі дысцыплінамі — графікай, арфаграфіяй, фанетыкай, граматыкай, лексікалогіяй. Функцыяніраванне гэтай структуры (асноўнае прызначэнне мовы — быць сродкам зносін паміж людзьмі) вывучаецца сацыяльнай лінгвістыкай або сацыялінгвістыкай.

**Сацыялінгвістыка** — кірунак мовазнаўства, які вывучае грамадскую абумоўленасць узнікнення, развіцця і функцыяніравання мовы, уздзеянне грамадства на мову і мовы на грамадства. Структура і функцыя мовы ўзаемазвязаны і ўзаемаабумоўлены. Таму названыя вышэй раздзелы мовазнаўства, якія вывучаюць структуру мовы, і сацыялінгвістыка цесна ўзаемазвязаны паміж сабой: без уліку умоў функцыяніравання мовы немагчыма вытлумачыць фарміраванне яе структуры і наадварот, без уліку асаблівасцей яе структуры немагчыма вытлумачыць яе функцыяніраванне ў пэўны гістарычны перыяд. Змяненне аднаго боку мовы цягне за сабой змяненне другога. Услед за размежаваннем мовазнаўства наогул на сінхроннае (сучаснае) і дыяхранічнае (гістарычнае) на сінхронную і дыяхранічную размежавалася і сацыялінгвістыка.

**Сінхронная сацыялінгвістыка** — вывучае функцыяніраванне мовы ў сучасны перыяд, **дыяхранічная** — у мінулыя эпохі, хаця элементы сінхроннай сацыялінгвістыкі выкарыстоўваюцца і дыяхранічнай, бо і дыяхранічная сацыялінгвістыка — гэта заўсёды вывучэнне функцыяніравання мовы на пэўным гістарычным зрэзе. Сінхроннай і дыяхранічнай сацыялінгвістыкай выкарыстоўваюцца розныя метады даследавання. Бо, напрыклад, адзін з найбольш пашыраных у сінхроннай сацыялінгвістыцы метадаў даследавання не можа выкарыстоўвацца ў сацыялінгвістыцы дыяхранічнай, якая мае справу з мовай адышоўшых пакаленняў людзей. Звычайна ў грамадстве функцыяніруе некалькі моў, бо яно рэдка бывае монаэтнічным. На Беларусі ў XIV—XVIII стагоддзях жылі беларусы, рускія, украінцы, палякі, літоўцы, татары, яўрэі, якія належалі да розных веравызнанняў, культурных традыцый. Таму прадстаўнікі кожнага з пералічаных этнасаў карысталіся дзвюма і больш мовамі, адной — у паўсядзённым ужытку, другой — у рэлігійным, навуковым, літаратурна-мастацкім (беларусы — беларускай, царкоўнаславянскай, лацінскай, польскай, расійцы — расійскай, царкоўнаславянскай, украінцы — украінскай, царкоўнаславянскай, лацінскай, польскай, палякі — польскай, лацінскай, летувісы — літоўскай, лацінскай, татары — татарскай, арабскай, яўрэі — старажытнаяўрэйскай, ідыш). Кожная з гэтых моў займала пэўнае становішча ў сацыяльна-камунікатыўнай сістэме, што залежала ад аб'ёму яе функцый. Аб'ём функцый кожнай мовы залежыць ад набору яе форм існавання.

**Форма існавання мовы** — канкрэтная форма яе структурнай арганізацыі і функцыяніравання ў чалавечым калектыве. З формаў існавання мовы ў сучасны момант выдзяляюць наступныя: літаратурная мова (пісьмовая і вусная), народна-гутарковая, кайнэ, прастамоўе, мова-піджын, крэольская мова, тэрытарыяльныя дыялекты, сацыяльныя дыялекты. Гэта розныя іпастасі адной і той жа мовы. Агульнасць зыходнага матэрыялу (гукаў, форм, слоў) робіць іх зразумелымі ў межах аднаго народа. Набор форм існавання ў мовы залежыць ад яе паходжання (спрадвечная ці запазычаная) і статуса ў грамадстве (свецкая ці царкоўная) і г.д.

**Літаратурная мова** — галоўная форма існавання мовы пэўнага этнасу, якая абслугоўвае самыя разнастайныя сферы жыцця грамадства, пераўзыходзіць усе іншыя разнавіднасці багаццем, шматфункцыянальнасцю, апрацаванасцю і строгасцю формаў. Паняцце «літаратурная мова» ў адносінах да кожнай асобнай мовы мае свой змест, што абумоўлена асаблівасцямі яе структуры. Напрыклад, паняцце «стараруская літаратурная мова» ўключае царкоўнаславянскі элемент, паняцце «старапольская літаратурная мова» — лацінскі элемент і г.д. Менавіта толькі літаратурная форма старабеларускай мовы і захавалася ў выглядзе рукапісаў і стáрадрукаў. Аднак мова — складаны сацыяльны арганізм, які не можа існаваць у адной форме. Згаданыя пісьмовыя тэксты можна рэканструяваць.

**Народна-гутарковая мова** — ад літаратурнай адрозніваецца меншай унармаванасцю, адсутнасцю пісьмовай формы, сферай выкарыстання. Сфера выкарыстання народна-гутарковай мовы — штодзённае жыццё, быт, маўленчы ўжытак. Разам з тым яна абслугоўвае ўсю тэрытарыяльную агульнасць людзей, г.зн. мае агульнанародны характар, які літаратурная мова.

**Кайнэ** — сродак міждыялектных зносін, які ўзнікае першапачаткова ў гандлёвых, ваенных або культурных мэтах на базе аднаго з групы блізкіх дыялектаў. Кайнэ — грэчаскае слова, якое служыла назвай агульнага для носьбітаў розных дыялектаў старажытнагрэчаскага маўлення, якое склалася на тэрыторыі Атыкі прыкладна ў IV ст. да н.Х. У адрозненне ад народна-гутарковай мовы кайнэ не носіць агульнанароднага характару. Сацыяльнай перадумовай узнікнення кайнэ служыць змешаны склад насельніцтва, якое пражывае ў горадзе або ў тым ці іншым рэгіёне краіны. Гістарычна кайнэ папярэднічае ўзнікненню пісьмовай мовы, яно часта становіцца базай літаратурнай мовы. Напрыклад, лонданскае кайнэ паслужыла базай англійскай літаратурнай мовы.

У **прастамоўя** свой склад носьбітаў або сацыяльны субстрат. Крыніцамі яго фарміравання з'яўляюцца жаргоны і мешчанізмы рознага роду. Дзве-тры фразы, якія ўключаюць прастамоўныя элементы, маркіруюць маўленне гаворачага і сігналізуюць аб яго сацыяльным і культурным статусе. Прастамоўе ніколі не складае цэльнай сістэмы ні ў фанетыцы, ні ў граматыцы, ні ў лексіцы. Асноўныя прыкметы прастамоўя: неўнармаванасць маўлення; стылістычная недыферэнцыраванасць (усе элементы прастамоўя належаць да аднаго стылю); факультатыўнасць, неабавязковасць ужывання для дадзенай сацыяльнай групы; адсутнасць пісьмовай формы; пашыранасць поўных сінонімаў (функцыянальная манатоннасць).

**Тэрытарыяльныя дыялекты** — адна з самых пашыраных форм існавання мовы, самай пашыранай да ўзнікнення яе пісьмова-літаратурнай формы. Тэрытарыяльны дыялект — гэта такая форма існавання мовы, для якой характэрны: тэрытарыяльная абмежаванасць; непаўната грамадскіх функцый; як вынік гэтага — нязначная стылёвая разнастайнасць; замацаванасць за бытавой і ўжыткова-вытворчай сферай; пэўная, гістарычна-абумоўленая сацыяльная сфера пашырэння — сялянства і блізкія да яго сацыяльныя групы; адсутнасць адбору і рэгламентацыі моўных сродкаў; структурная падначаленасць дыялекта вышэйшым формам існавання мовы, у прыватнасці літаратурнай мове. Асаблівасці тэрытарыяльных дыялектаў старажытнай Беларусі адлюстраваны ў пісьмовых помніках у выглядзе апісак.

**Сацыяльныя дыялекты.** Калі тэрытарыяльныя дыялекты народжаны прасторавай, геаграфічнай раз'яднанасцю народа, то прырода сацыяльных дыялектаў — у сацыяльна-саслоўнай, прафесійнай раз'яднанасці грамадства (адсюль і назва). Агульнай рысай усіх сацыяльных дыялектаў з'яўляецца абмежаванасць іх сацыяльнай асновы: яны выступаюць сродкам зносін, прычым, як правіла, дадатковым, асобных сацыяльна-саслоўных, вытворча-прафесійных, групавых і іншых калектываў, а не ўсяго насельніцтва рэгіёна (як тэрытарыяльныя дыялекты). На Беларусі са старажытных часоў былі пашыраны ў пэўных месцах сацыяльныя дыялекты рамеснікаў і вандроўных жабракоў.

Функцыянальнае ўзаемадзеянне ўсіх ужываемых моў і іх форм існавання як элементаў сацыяльна-камунікатыўнай сістэмы ў дадзенай тэрытарыяльнай агульнасці людзей і ёсць **моўная сітуацыя**. Гэта канкрэтны тып узаемадзеяння моў і розных форм іх існавання ў грамадскім жыцці кожнага народа на дадзеным этапе яго гістарычнага развіцця. Прыватнымі праяўленнямі моўнай сітуацыі з'яўляюцца дыгласія і двухмоўе (шматмоўе). **Дыгласія** — гэта выпадак, калі індывід або моўная агульнасць валодаюць дзвюма і больш формамі існавання адной мовы, якія ў прынцыпе не могуць ужывацца ў адной сферы. Такія адносіны існавалі ў раннім сярэдневеччы паміж беларускай і царкоўнаславянскай мовамі. **Двухмоўе (шматмоўе)** — гэта суіснаванне ў чалавека або ва ўсяго народа дзвюх ці больш моў, звычайна адной — роднай, астатніх — набытых. Пры гэтым у адрозненне ад дыгласіі гэтыя мовы могуць ужывацца ў адных і тых жа сферах.

*(Працяг будзе.)*

*Мянушкі*

# Гуды

Гуды — складаны і шматзначны этнонім. Тут мы не абмяркоўваем яго этымалогію*, усе значэнні і іх гістарычныя змены. Мэта артыкула — разгледзець сувязь этнонімаў «гуды» і «беларусы».

Ці трэба ўзнімаць гэтае пытанне? Абодва ж этнонімы мы сёння разумеем як сінонімы літоўскай мовы. Ужывалі слова «гуды», распарадзіўшыся пяць дзесяцігоддзяў назад замяніць яго словам «беларусы». Зараз «гуд» зноў збіраецца ўваскрэснуць. Вось аб ужыванні абодвух слоў у гэтым значэнні і лепш падумаць. Мы ведаем, што быў рускі (старажытнарускі) народ, які пазней падзяліўся на тры народы: рускі (велікарускі), украінскі і беларускі. У этнагенезе апошніх двух народаў рашаючую ролю адыграла тое, што яны знаходзіліся ў Вялікім Княстве Літоўскім. Гэта добра вядома, аднак іншы раз мы ўсё ж сутыкаемся з сапраўды заканамернымі цяжкасцямі. Па-першае, няпростая мэта вызначыць час паходжання беларускага і ўкраінскага народаў. Яшчэ цяжэй дамовіцца аб назве той мовы, якая ўжывалася ў канцылярыі Літоўскай дзяржавы.

Абодвум гэтым пытанням прысвечана вялікая літаратура. Аргументацыя розных пунктаў погляду мае свой моцны бок, разам з тым яна спрэс пахіснута. Усё гэта найлепш паказвае, якая складаная гэта праблема. У адпаведнасці з гэтым трэба падкрэсліць, што абодва пытанні неабходна вырашаць разам. Трэба глядзець, якім народам у свой час (XV—XVIстст.) былі населены сучасныя Беларусь і Украіна.

Белая Русь і Украіна — старыя назвы, аднак іх значэнні зусім іншыя. У XV—XVI стст. яны далёка не адпавядалі сённяшнім. У тыя часы насельніцтва гэтых зямель называла сябе рускімі, і так называлі яго літоўцы, палякі і немцы. Яны сябе ўспрымалі як адзін народ, як ва ўсім Вялікім Княстве Літоўскім, так і ў Чырвонай Русі, якая знаходзілася пад польскім уладаннем, так і ў належаўшых Венгрыі Карпатах. Аднак аб'яднаны Маскоўскай Руссю народ яны называлі не рускімі, а маскавітамі. Са свайго боку маскавіты называлі іх літоўцамі (літвінамі). У тую эпоху старажытнарускі народ дзяліўся не на тры, а на два народы — на велікарусаў і заходнерусаў. І толькі пазней заходнерусы падзяліліся на беларусаў і ўкраінцаў. Многае тут вырашыла Люблінская унія, правёўшы дзяржаўную мяжу паміж сучаснай Беларуссю і Украінай.

Які этнонім трэба прымяніць да продкаў сучасных беларусаў і ўкраінцаў, таго народа, які жыў у XV—XVI стст. і які мы ўмоўна называем заходнерусамі? Як трэба называць іх мову? Гэтая праблема па крайняй меры з пункту погляду лёсу вырашана ў польскай мове: рускую мову нашых дзён мы называем język rosyjski, а «język ruski» прымянімы толькі да той мовы, назву для якой мы шукаем. Вось у гэтай бядзе выратаваннем для літоўскай мовы можа быць у этнонімах «гуды» і «беларусы». Словы «беларусы» або «белагуды» («беларусіны») пэўна прымянімы і да сучасных беларусаў. Бо ў такім значэнні мы іх цяпер і ўжываем. А той народ, які мы ўмоўна характарызуем як заходнерусы, якія ў XV—XVIстст. сапраўды жылі як асобны народ, які пазней падзяліўся на беларусаў і ўкраінцаў, трэба называць гудамі (русінамі). Па крайняй меры ўжо ў літоўскай мове праблема іх этноніма добра вырашаецца.

Вырашаецца і праблема назвы мовы. Яе, як і ва ўсіх нармальных выпадках, атрымалі б у этнічным вызначэнні. Не трэба было б ламаць галаву, ці яе лепш назваць «украінская» (як у грамаце Вітаўта), ці «беларуская» (як у большай частцы тэкстаў XVI ст.). Нават калі яна трохі «нежывая», г.зн. з закасцянелай пісьмовай традыцыяй, яе няцяжка можна патлумачыць гаворкамі вуснай мовы, сувязь з якімі ўтрымліваецца беларускай і ўкраінскай мовамі. Гудская («русінская») мова іграе ролю пісьмовага інтэрдыялекта.

Тэрмін «гуды» («русіны») дазваляе рашыць не адну гістарычную і філалагічную праблему.

**Эдвардас ГУДАВІЧУС.**
**Пераклаў з літоўскай мовы**
**Уладзімір СВЯЖЫНСКІ.**

* Саманазвы этнасу як назвы гэтага этнасу часцей пашыраны на мове суседняга этнасу (а адтуль — і далей). Такім чынам і гоцкае суседства з балтамі дэманструе гэтае агульнае правіла адносна этноніма «гуд». Этнонімы чужых этнасаў адшукваюцца ў агульнай лексіцы сваёй мовы толькі тады, калі яны не адпавядаюць агульнаму правілу. Такімі выпадкамі з'яўляюцца немцы (у славянскай мове), можа быць aisčiu (у германскай мове), германы (у кельцкай мове). На гэта элементарнае правіла не звяртаецца ўвага: Mažiulis V.Prusu kalbos paminklai. V., 1981. T.2. P.282. Гэта не што іншае як «рэнесанс» этымалагізацыі XV—XVII стст., пачаты класічным творам Ч.Гядгаўдаса. Разважаючы так, этнонім «англы» можна выводзіць з вугля (anglies), а «русы» — з rusenti (тлець).




**Рубрыку вядзе Лявон БАРШЧЭЎСКІ**

Аляксандр Блок (1880—1921) прынёс у рускую паэзію шчымлівасць адзіноты і маўклівую велічнасць пачуцця.

**Аляксандр БЛОК**

## Голас з хору

Над лёсам жаласным сваім
Як часта плачам — я і ён.
О, знаць бы сёння нам усім
Холад і змрок наступных дзён!

Ля рук любімых ты — і ўсё ж
Забаву плачам працяў.
Падман заўважыў? — ну і што ж?
І ў той руцэ любімай нож?
 Дзіця! Дзіця!

Здраду без меры ўзнае свет,
А смерць — не падасць рукі.
Святла ўсё чарнейшы будзе след,
І ўсё шалёней віхор планет
 Яшчэ вякі, вякі!

І век апошні, ля страшных вех,
Убачым — і я, і ён.
І неба ўкрые брудны грэх,
На вуснах пазастыне смех
 І небыцця праклён...

Вясны, дзіця, будзеш чакаць —
 Вясна не гляне.
Ты будзеш сонца на неба зваць —
 Сонца не ўстане.
І крык, калі ты пачнеш крычаць,
 Каменем кане...

Біце ж свайму жыццю паклон
 Цішэй вады, ніжэй травы!
О, зналі б, знаді б, дзеці, вы
 Холад і змрок наступных дзён!

**Пераклад з рускай Васіля ЗУЁНКА.**

* * *

Вясняны дзень прайшоў няўдала,
Не асвятліў акна сабой;
Як птушка ў клетцы сумавала,
Спявала жонка за сцяной.
А я сабраў душы збалелай
Гады, дзе цені і святло;
Да болю стала зразумела:
Жыццё адпела і прайшло.

Вяртацца могуць думкі, спрэчкі,
Ды будзе сумна ўсё адно;
Зашторваць вокны недарэчна —
Дзень у душы датлеў даўно.

* * *

Ноч, вуліца, ліхтар, аптэка,
Бяздумна-цьмянае святло.
Не знойдзеш рады: зноў паўвека
Зжыві — ўсё будзе, як было.

Памрэш — пачнеш усё нанова,
І ўсё паўторыцца ізноў:
Ноч, вуліца, канал лядовы,
Аптэка, цьмянасць ліхтароў.

**Пераклад з рускай Янкі СІПАКОВА.**

**Пытанне — адказ**

# Скаўты: служба любові і абавязку перад Богам і людзьмі

(Заканчэнне. Пачатак на с.1.)

лесе, быць назіральнымі, вытрыманымі, вучыліся дапамагаць адзін аднаму. Такога ў іхнім жыцці яшчэ не было.

Там жа, у лагеры, былі распрацаваныя першыя элементы скаўцкай формы — адзення і нагрудных знакаў. Пасля таго, як скаўты праходзілі першыя выпрабаванні, яны атрымлівалі свісток з надпісам «Будзь гатовы!» і латунны знак з выявай лілеі. Скаўты, якія лічыліся найлепшымі, атрымлівалі дадатковую адзнаку — зялёную хустку на шыю.

У лагеры скаўты вучыліся жыць у складзе маленькай групы — патруля. Штодня адзін патруль ішоў у дазор, другі шукаў месца для новага лагера, іншыя займаліся нарыхтоўкай прыпасаў і гатаваннем ежы. Каб стаць арганізаванымі і выхаваць у сабе пачуццё адказнасці, шторанку і штовечар хлопцы выконвалі розныя цвічэнні: вучыліся распальваць вогнішча адной запалкай, вязаць марскія вузлы, самі даглядалі сваё адзенне і турыстычныя прылады... Гэты лагер і даў пачатак руху скаўтаў.

У 1908 годзе ўбачыла свет славутая кніга Бадэн Паўэла «Скаўтынг для хлапцоў» — твор, які для мноства маладых чытачоў стаў сапраўдным падручнікам жыцця. З гэтага часу пачалося распаўсюджванне скаўтынгу спачатку ў Вялікай Брытаніі, а потым і па ўсім свеце. Бадэн Паўэл быў змушаны стварыць офіс, каб адказваць на тысячы лістоў, якія ён стаў атрымліваць з усяго свету штодня.

У 1920 годзе ў Лондане адбылася першая міжнародная сустрэча скаўтаў, якая атрымала назву Джэмбары. Так скаўтынг ператварыўся ў міжнародны рух.

## Учора

«Служыць Богу і Бацькаўшчыне». У свой час гэтыя словы прырачэння скаўта аказалі кепскую паслугу беларусам. У царскай Расіі, часткай якой быў на пачатку стагоддзя наш край, яны трактаваліся адназначна: служыць Рускай Праваслаўнай Царкве і расійскаму самаўладдзю. Таму першыя беларускія нацыянальныя скаўцкія арганізацыі з'явіліся толькі ў 20-я гады: у 1921 годзе — пры беларускіх гімназіях у Клецку і Нясвіжы, у 1922 — пры Віленскай беларускай гімназіі. У 1921 годзе была створана арганізацыя Дружыны Крывіцкіх Скаўтаў (ДКС).

У БССР скаўтынг так і не паўстаў — улады арыентаваліся на ўцягванне моладзі ў кіраваныя камуністычнай партыяй маладзёжныя арганізацыі — камсамол і піянерыю. Апошняя, дарэчы, шмат вонкавай атрыбутыкі — форму, шыйныя хусткі, вітанне ўзнятай рукой і нават лозунг «Будзь гатовы!» — запазычыла ў скаўтаў. Але сам гэты рух быў забаронены.

У далучанай да Польшчы Заходняй Беларусі беларускія скаўцкія арганізацыі існавалі да верасня 1939 года. Польскімі ўладамі рабілася некалькі спроб іх забароны, але суполкі аднаўляліся пад новымі назвамі. Напрыклад, у Вільні — пад выглядам спартовага аб'яднання «Гайсакі». У 1938 годзе віленская арганізацыя беларускіх скаўтаў брала ўдзел у чарговым Джэмбары. Яна праіснавала да 1941 года.

## На чужыне

Вайна спыніла дзейнасць беларускіх скаўцкіх арганізацый. Але ў паваенным часе яны былі адноўлены ў асяроддзі беларускай эмігранцкай моладзі ў Германіі. У 1946 годзе ў Ватэнштаце адбыўся злёт Дружын Крывіцкіх Скаўтаў, прысвечаны 25-годдзю са дня заснавання арганізацыі. У тым жа годзе ў Германіі было створана Згуртаванне Крывіцкіх Скаўтаў, якое мела нават уласныя друкаваныя выданні — часопіс «Беларускі скаўт» і серыю брашур «Скаўцкая бібліятэчка».

8 ліпеня 1946 года быў праведзены Першы з'езд Згуртавання беларускіх скаўтаў на чужыне (ЗБСЧ). На Другім з'ездзе ЗБСЧ (1947 г.) прысутнічала 945 дэлегатаў гэтай арганізацыі, якая была нават зарэгістравана ў Міжнародным скаўцкім бюро ў Лондане. Трэці з'езд ЗБСЧ адбыўся ў 1949 годзе ў Шлясгайме.

У 1950 годзе прайшлі II з'езд Беларускіх скаўтаў у Таронта і III з'езд Беларускіх скаўтаў Аргенціны. У 1951 годзе арганізацыі беларускіх скаўтаў былі створаны ў ЗША (Чыкага) і Новай Зеландыі.

З гэтага часу пачаўся паступовы заняпад беларускіх скаўцкіх арганізацый на эміграцыі. Сёння ўсе яны з розных прычын спынілі сваё існаванне.

## Сёння

Першыя спробы аднаўлення скаўтынгу на Беларусі былі зроблены з пачаткам рэформ у тагачасным СССР. Пачынаючы з 1988 года суполкі скаўцкага тыпу былі заснаваны ў Баранавічах, Гродне, Маладзечне, Менску ды іншых гарадах. 16 чэрвеня 1991 года Міністэрствам юстыцыі была зарэгістравана арганізацыя «Союз скаутов Белоруссии», якую ўзначаліў Ігар Касцевіч — журналіст газеты «7 дней», які ў гэтым выданні асвятляў пераважна дзейнасць арганізацыі «Славянский Собор» ды ёй падобных.

Аб схільнасцях «Союза скаутов Белоруссии» і яго кіраўніка сведчыць ліст, дасланы ССБ на адрас «Организации Российских Юных Разведчиков» — скаўцкай арганізацыі, створанай у ЗША пасля 1917 года расійскімі эмігрантамі-манархістамі. Гэты ліст быў надрукаваны ў выданні ОРЮР «Вестник Руководителя». Падаём урывак з яго:

«Дорогие сёстры и братья!

Мне думается, что мы... имеем право вас, Русских скаутов, так называть, ибо происхождение и корни у вас одни и те же. Все мы дети одной Родины — Великой Руси, которая несмотря на нынешнее положение остаётся неделимой и вечной Империей...

Организация Российских Юных Разведчиков пронесла через историю этого века, вначале как Н.О.Р.С., а с 1947 года как О.Р.Ю.Р. самые ценные, самые жизненно-важные принципы — веру в Бога и любовь к Отечеству. Это то, что „Союз Скаутов Белоруссии" безоговорочно принял у вас и пронесёт до тех пор, пока будет существовать».

Ліст падпісаны Старшынёй праўлення ССБ Ігарам Касцевічам і адказным сакратаром ССБ Маратам Навіцкім. Тым часам заўважым, што так шанаваная кіраўнікамі ССБ НОРС 15 студзеня 1945 года рашэннем Міжнароднага Скаўцкага Бюро была выключана з Сусветнай Арганізацыі Скаўцкага Руху за палітычную дзейнасць, несумяшчальную з прынцыпамі САСР, і таму ў 1947 годзе змяніла сваю назву на ОРЮР, захаваўшы свае палітычныя схільнасці.

Паралельна з ССБ паўстала яшчэ адна плынь скаўцкага руху. У 1992 годзе адбыўся сойм, які аб'яднаў існуючыя тады паасобна беларускія нацыянальныя скаўцкія суполкі ў АБС — Аб'яднанне Беларускіх Скаўтаў. Яшчэ раней, у 1991 годзе, прадстаўнікі арганізацый, што ўвайшлі пазней у АБС, наладзілі сувязь з Сусветным бюро скаўцкага руху, якое даручыла арганізацыі «Скаўты Францыі» курыраваць беларускі скаўцкі рух.

У 1992 годзе кіраўніцтва ССБ падало дакументы на рэгістрацыю сваёй арганізацыі ў Жэнеўскую штаб-кватэру Сусветнай арганізацыі скаўтаў. Але, паводле правілаў руху, зарэгістраванай магла быць толькі адзіная агульная краёвая арганізацыя скаўтаў, а ў Беларусі паралельна існавалі ССБ і АБС. Паміж кіраўнікамі абедзвюх арганізацый адбыўся шэраг сустрэч, на якіх абмяркоўвалася магчымасць аб'яднання. Але злучэнню ў адзіную арганізацыю перашкодзілі прынцыповыя разыходжанні ў поглядах лідэраў «Союза скаутов Белоруссии» і Аб'яднання беларускіх скаўтаў. Прадстаўнікамі АБС было прапанавана нават унясенне змен у тэкст прырачэння скаўта — замест слова «Бацькаўшчына» ўжываць «Беларусь», бо сваёй бацькаўшчынай Касцевіч і ягоная арганізацыя лічылі «Великую Россию».

Ці не выкліканы спрэчкі паміж прадстаўнікамі розных скаўцкіх арганізацый самім характарам скаўтынгу? Каб пачуць адказы на гэта ды іншыя пытанні, я звярнуўся да сп. Вадзіма Сугойдзя — скарбніка АБС, кіраўніка Менскай харугвы імя Вітаўта.

**— Ці не з'яўляецца скаўтынг па сутнасці сваёй рухам, які не прызнае нацыянальных асаблівасцей?**

— Міжнародны скаўтынг — не наднацыянальная структура. Наадварот, гэта супольнасць нацыянальных патрыятычных арганізацый. У кнізе «Скаўтынг», выдадзенай Сусветным Скаўцкім бюро ад імя Сусветнай Арганізацыі Скаўцкага Руху, сказана: «Ты, як і іншыя, ганарышся сваім этнічным паходжаннем. Песні, мова, адзенне, кухня, вера дапамагаюць табе падтрымліваць асобую сувязь з мінулым твайго народа. Этнічныя, фальклорныя фестывалі, абрады, святы дазваляюць людзям асабліва глыбока пазнаваць свае традыцыі і далучаць да іх суседзяў». І яшчэ адна цытата з тае ж кнігі: «Кожны скаўт добра ведае гісторыю свайго краю, сваёй дзяржавы, бо яна тварылася воляю лёсу, які з боку можа падацца добрым альбо благім. Так, ёсць сумныя і страшныя старонкі, ёсць шчаслівыя і радасныя часы, але мы не абіралі, дзе нарадзіцца. Мы мусім пазнаць гісторыю краіны, у якой нарадзіліся, каб мець уласнае разуменне мінулага, рэчаіснасці і будучыні.

Скаўты ва ўсім свеце, у кожнай краіне маюць асобае стаўленне да сваёй радзімы, яе сімвалаў і традыцый.

Стаўленне да сцяга сваёй дзяржавы таксама ёсць адно з самых значных. Скаўты ведаюць яго гісторыю, строга выконваюць рытуал яго вітання».

Акрамя таго, элементы традыцыйнай сімволікі выкарыстоўваюцца ў эмблемах нацыянальных арганізацый. У выпадку АБС — гэта бел-чырвона-белая стужка і Ярылаў крыж на фоне скаўцкага трылісніка. Бо адна з галоўных задач скаўтынгу — выхаванне грамадзяніна, патрыёта сваёй краіны.

**— У развітых краінах з даўнімі традыцыямі скаўтынгу ўдзельнікі гэтага руху складаюць каля трох працэнтаў моладзі свайго пакалення. Але сярод палітычнай, прадпрымальніцкай і грамадскай эліты доля былых скаўтаў узрастае да 30 працэнтаў. Ці не вынікае з гэтага, што скаўты — элітарная арганізацыя, якая займаецца падрыхтоўкай лідэраў?**

— Скаўтынг — масавы рух, гэта праўда. І прычына гэтага толькі ў тым, што патрабаванні арганізацыі да сваіх удзельнікаў дастаткова высокія. Служэнне Богу і Бацькаўшчыне, дапамога людзям ва ўсякі час — гэта пакліканне. Таму скаўтынг — гэта арганізацыя людзей, здольных стаць асобамі, лідэрамі. Да яго далучаюцца тыя, хто хоча дасканаліць сябе, хто не абыякавы да іншых. Яны прыходзяць самі.

**— І гэта — адзінае, чым розняцца скаўты ад іншых дзіцячых арганізацый?**

— Іншых? Дагэтуль існавала толькі адна дзіцячая арганізацыя — піянерская і адзіная маладзёжная — ВЛКСМ — абедзве палітызаваныя. Існавала і звязаная з імі сістэма пазашкольнага выхавання — дамы і палацы піянераў, клубы... Існуе яна і цяпер. Але, каб патлумачыць, чым розніцца ад яе скаўтынг, зноў працытую кнігу, выдадзеную Сусветным бюро нашага руху, тую яе частку, якая тлумачыць падставовыя прынцыпы арганізацыі.

«Дабравольная азначае, што сябры Руху далучыліся да яго з уласнае волі і дзейнічаюць паводле Законаў і Прынцыпаў гэтага Руху. Ніхто і ніколі не мусіць пайсці ў Рух, выконваючы чый-небудзь загад.

Ты сам прымаеш рашэнне аб далучэнні, калі згодны жыць згодна з патрабаваннямі Руху і выконваць іх.

Калі ты не выконваеш і не прызнаеш патрабаванняў гэтага Руху, ты мусіш выйсці з яго, бо ты не прымаеш яго Статут. Цябе ніхто не змушае быць Скаўтам.

Непалітычная азначае, што Скаўтынг не ўцягнуты ў барацьбу за ўладу альбо дзейнасць якіх-небудзь партый.

Разам з тым кожны чалавек мусіць разумець палітычныя рэаліі і можа аддаваць камусьці перавагу.

Неўрадавая азначае, што ўрад ці яго функцыянеры не могуць вызначаць палітыку Скаўцкага Руху, не могуць загадаць ці паказаць, як дзейнічаць Скаўцкай Арганізацыі.

Скаўцкая Арганізацыя дзейнічае адпаведна сваім Прынцыпам, Мэтам і Метадам, але яна можа супрацоўнічаць з урадам у пэўных накірунках сваёй дзейнасці, напрыклад дзеля прафілактыкі наркаманіі, аховы прыроды. І, канешне, Скаўцкая Асацыяцыя любой краіны дзейнічае ў межах законаў гэтай дзяржавы.

Незалежная азначае, што кожная Нацыянальная Скаўцкая Асацыяцыя ў сваёй дзейнасці не залежыць ні ад якіх загадаў іншых арганізацый і сама выбірае, з кім супрацоўнічаць. Яе дзейнасць абумоўлена ўласнай Канстытуцыяй, яна прымае рашэнні самастойна і нікому не дае справаздачы.

Кожная Нацыянальная Асацыяцыя існуе на свае ўласныя сродкі і не можа знаходзіцца на датацыі дзяржавы альбо нейкай арганізацыі.

Кіруе Скаўцкім Рухам Сусветная Арганізацыя Скаўцкага Руху са штаб-кватэрай у Жэневе (Швейцарыя). Ніякія іншыя арганізацыі, камітэты і ўрады не могуць здзяйсняць кіраўніцтва Скаўцкім Рухам».

**— Прытрымліваючыся ўсіх гэтых прынцыпаў, АБС мусіць мець шмат праблем...**

— І ўжо мае. Праз нядоўгі час адбудзецца Сойм Аб'яднання Беларускіх Скаўтаў. І можа стацца так, што пасля Сойма яно перастане існаваць увогуле. Усё залежыць ад таго, якіх поглядаў будуць прытрымлівацца дэлегаты, і ад таго, хто будзе абраны канцлерам. Рэч у тым, што ўнутры самой АБС існуюць розныя ўяўленні аб мэтах руху і спосабах іх дасягнення. Бо ёсць людзі, якія любяць пісаць метадычныя рэкамендацыі, тэарэтызаваць, нават звяртацца па дапамогу да ўрада. З дзецьмі яны не працуюць. Я называю іх скаўтамі-тэарэтыкамі, бо адзіная ад іх карысць — загады і парады. І ёсць тыя, хто непасрэдна працуе з дзецьмі, вучыць іх таму, што ўмее сам, ходзіць з імі ў вандроўкі, жыве іхнім жыццём.

Ад таго, погляды якой з гэтых груп зробяцца падставай дзейнасці АБС, і залежыць яе будучыня. Альбо яна ператворыцца ў падабенства піянерыі і стане масавай і нікому не цікавай арганізацыяй для пазашкольнай работы з падлеткамі, альбо захавае рысы, уласцівыя менавіта скаўтынгу — не фармальны характар і самадзейнасць...

З іншымі, чым у сп. Сугойдзя, уяўленнямі аб мэтах і лёсе беларускага скаўтынгу я пазнаёміўся, прачытаўшы выдадзеную ў 1993 годзе кнігу аднаго з кіраўнікоў АБС Віктара Акімава «Спадарожнік скаўта», якую аўтар, забыўшыся аб тым, што скаўцкая арганізацыя не мае права атрымліваць бюджэтныя датацыі, выдаў за грошы Савета Міністраў.

Чытач «Спадарожніка скаўта» даведаецца аб рэчах папросту незвычайных:

аб тым, што пачынальнікамі беларускага скаўтынгу сталі ўдзельнікі беларускіх гурткоў, створаных у Маскве ў 80-х гадах мінулага стагоддзя, г.зн. больш чым на 20 гадоў раней першага лагера Бадэн Паўэла;

аб тым, што ССБ і АБС ствараюць адзіны скаўцкі рух;

аб умоўных знаках скаўтаў, поўны спіс якіх выглядае так:

даюць грошы на чыгунку,
тут даюць ежу,
тут жывуць тры жанчыны,
тут нічога няма,
тут начлег,
тут сабака ў гародзе,
няма хлеба без працы,
уцякай адсюль,
тут жыве жандар,
бедныя людзі(?);

аб Божых прыказаннях і малітвах скаўтаў, дзе побач з запаветам «не сведчы фальшыва на бліжняга твайго і кажы праўду» нібы дыямент ззяе сентэнцыя «не бойся, не выдам».

Амаль палову кнігі займае «Прыкладны статут Згуртавання скаўтаў Рэспублікі Беларусь» — арганізацыі, якую прапануе стварыць сп. Акімаў.

Чытаючы раздзел «Структура ЗСРБ» ды наступныя — «Страявы рэгулямін. Методыка навучання муштры», «Адзіночная падрыхтоўка», «Групавое вышкаленне» — я не мог пазбыцца ўражання, што ўсе яны з нязначнымі зменамі перапісаны проста з кнігі «Строевой устав Вооружённых Сил СССР». Адзіная адметнасць статута ў тым, што замест афіцэрскіх рангаў там ужыты іншыя: Маршалак Земскі, Найвышэйшы гетман, Канцлер, Падскарбі, Маршалак Павятовы, Харужы дворны, Экзэкутар (выканаўца судовых выракаў), Апраўца (той, хто, на думку В.Акімава, мусіць вышукваць і затрымліваць злачынцаў у ЗСРБ), Дэцкі (вывядоўца) і г.д.

Але найбольш уразіў аўтара гэтых радкоў наступны ўрывак са «Спадарожніка скаўта»: «Асноўная пастава скаўта — зважай. На каманду «зважай» — скаўт павінен стаць моўчкі, пяты злучаны разам, наскі рассунутыя прыблізна на шырыню ступака. Цяжар цела спачывае раўнамерна на абодвух ступаках. Калені злучаныя і крыху пададзеныя назад, выпрастаныя. Грудзі трошкі выпнутыя, жывот уцягнуты, плечукі вольна апушчаныя і на аднолькавай вышыні. Лапаткі зведзеныя, локці пададзеныя крыху назад, рукі прыкладзеныя да сцёгнаў, пальцы выпрастаныя і злучаныя. Сярэдні палец спачывае на шве нагавіцаў, вялікі прыціснуты да далоні ўздоўж паказальнага. Галава прыўзнятая, барада крыху прыцягненая да шыі. Позірк скіраваны ўперад. Мышцы крыху і раўнамерна напятыя». Прызначаны падобныя рэкамендацыі для выхавання асобы альбо салдата ганаровай варты — хай кожны мяркуе сам. Варта толькі нагадаць, што яшчэ да нараджэння сп. Акімава Бадэн Паўэл напісаў: «Вайсковая капральшчына вядзе да знішчэння асабовасці, тады як мы змагаемся, каб выхаваць у скаўтаў індывідуальны характар».

Скаўтынг вялікарасійскі, нацыянальны, ваенізаваны — у сённяшняй Беларусі ёсць прыхільнікі ўсіх гэтых яго трактовак. Але што такое скаўтынг у сваім першасным выглядзе? Якім стварыў яго Бадэн Паўэл?

Адказам на гэтыя пытанні для мяне стала брашура, выдадзеная ў 1947 годзе Згуртаваннем Крывіцкіх Скаўтаў і складзеная амаль выключна з выказванняў самога заснавальніка руху. Вось адно з іх:

«Не дазвольма, каб тэхнічная частка пераважала маральную. Практычныя заняткі, жыццё ў прыродзе, лагеры, вандроўніцтва, добры ўчынак, братэрства пры сустрэчах на Джэмбары — усё гэта сродкі, а не мэта. Мэтай ёсць **характар**, характар з пэўным заданнем.

А гэтым заданнем ёсць, каб наступнае пакаленне было здаровае духам у гэтым нездаровым свеце і каб ставіла вышэй разуменне службы — дзейнай службы Любові і Абавязку адносна Бога і людзей».

**У.ПАНАДА.**

# Дзякую!

**Шчыра ўдзячны беларусам Амерыкі, прыхільнікам фонду Адраджэння Беларусі і асабіста Янку Запрудніку за маральную і матэрыяльную падтрымку маёй дзейнасці ў справе абароны беларускай мовы.**

**Мікола САВІЦКІ,**
**старшыня Менскай гарадской Рады ТБМ імя Ф.Скарыны,**
**прафесар.**



Падзеяй у культурным жыцці Менска стаў бенефіс народнага артыста Расціслава Янкоўскага (на здымку ў цэнтры), які адбыўся ў Рускім драматычным тэатры імя Горкага. 45 гадоў творчай працы ў тэатры выдатнага майстра. Павіншаваць юбіляра сабралася амаль уся дынастыя Янкоўскіх. Прыехаў з Масквы і знакаміты малодшы брат — Алег (на здымку першы злева).

Але разам з радасцю сустрэчы з выдатнымі майстрамі сцэны, разам з гонарам — а гэта ж беларусы, міжволі прысутнічае і горыч: вось што зрабіла з беларускімі талентамі Расійская імперыя, — рэпрэсіраваныя бацькі ледзьве выжылі ў часе сталінскіх рэпрэсій, а дзяцей усё ж у Беларусі адабрала. Будзем усё ж ганарыцца, што яны служаць дабру і высокаму мастацтву.

**Фота Віктара ТАЛОЧКІ, Белінфарм.**

# Святочны каляндар беларусаў



У назве месяца і прыказцы вылучаны адметнасці першага веснавога месяца, які мае 31 дзень і на які прыпадае веснавое раўнадзенства. Вось як гэта адлюстравалася ў прымаўках: «У сакавіку дзень з ноччу мераецца», «Сакавік і снегам сее, і сонцам грэе», «Калі-нікалі і сакавік марозам хваліцца», «У сакавіку кура з калюгі нап'ецца», «Калі ў сакавіку вада, то ў красавіку трава» і інш.

**1** (серада). **Кат.** *Папяльцовая серада, Папелец*. Пачатак Вялікага посту паводле грыгарыянскага стылю.

**Народны каляндар**. 1—5 прадаўжаецца масляны тыдзень, забавы якога, песні тыпу «А ў нас сёння Масленка, Масленка» пачаліся з 27 — 28 лютага. Гэты тыдзень называлі яшчэ Пустым, развітальным, Сырным, а часам, як і калядны, Крывым з-за высокага ўзроўню смехавай культуры. Забаранялася есці мяса, якое замянялі сімвалам сонца — блінамі. Іх елі з маслам у такой вялікай колькасці, што з'явілася нават прыказка: «Адзін блін ем — на другім сяджу». Рабілі і запальвалі кола-сонца, з магічнай мэтай спальвалі сімвал марозу — антрапаморфную выяву Зімы, вадзілі масляніцыя карагоды.

А мы Масленку чакалі, люлі, чакалі!
Усю нядзельку выглядалі, люлі, выглядалі!
Мы думалі: Масленка сем нядзелек, люлі,
сем нядзелек,
Ажно Масленка сем дзянёчкаў, люлі, сем
дзянёчкаў,
А ў нас сёння Масленіца, люлі, Масленіца,
Вылецела з куста ластавіца, люлі, ластавіца.

У апошні дзень тыдня спявалі:

Мы думалі, Масленка сем нядзель,
Застаецца Масленкі адзін дзень.
Масляная, шчаслівая, вясёлая,
Расцягніся да Вялі-і-і-і-кадня!

Непасрэдна свята Масленкі пачыналася ў чацвер, доўжылася бяседнымі застоллямі ў пятніцу і заканчвалася пачаткам выключнай музычнай з'явы на Усходняй Беларусі — Гуканнем вясны — у нядзелю. Апошняе ў пераважнасці прадаўжалася да Вялікадня, але яго высокі, прыгожы гукальны «у-у-у-у!» напрыканцы музычнай формулы можна пачуць часам нават у жніўных і вясельных песнях.

Гукалі вясну на самых высокіх пагорках або са стрэх гумнаў — бліжэй да неба, космасу і каб далей чуваць было. Вера ў магічную сілу слова дала жыццё ў гукальных вяснянках, перарасла ў выключную эстэтычную з'яву — песенную магію: паклічаш — і Вясна прыйдзе. У лепшыя сярод іх можна залічыць наступную:

Песенька мая хароша... у-у-у!
Харошая ж.
Захаваю цябе к налецей... у-у-у!
К налецейку ж.
К налецейку, к Ушэсцяй... у-у-у!
К Ушэсцяйку ж.
Паеду ў поле і з сахо... у-у-у!
І з сахою.
Вазьму песеньку з сабо... у-у-у!
За сабою.
Буду поле ярава... у-у-у!
Яраваці.
Буду песеньку спява... у-у-у!
Спяваці.

На тэрыторыі паўднёвых ад Менска раёнаў (Уздзеншчына, Койданаўшчына, Стаўпеччына і інш.) і ў нашы дні існуе «вешанне калодкі» незамужнім дзяўчатам і нежанатым хлопцам на Масленку, як напамінак, што трэба споўніць свой святы абавязак па прадаўжэнні чалавечага роду. Са спевамі адпаведных песень і прыпевак гурт моладзі цягаў па хатах тоўсты кусок дрэва, які прывязвалі да нагі «пакаранага», або маленькія калодачкі дрэва вешалі на адзенне. Ад калодкі трэба было адкупіцца «ахвярай».

**2** (чацвер). **Народны каляндар.** *Валоссе, Улас, Валосы, Крывы, Тлусты чацвер.* У гэты дзень аб'язджалі маладых бычкоў і жарэбчыкаў, «пяклі аладкі, каб яны былі гладкі», валачыліся вакол вёскі, каб быў доўгі лён і вадзілася жывёла, «цягалі за валоссе, каб усё вялося»; гайдаліся-гушкаліся на арэлях, дзеці вазілі на санках і частавалі бабу-павітуху. Гэта рэшткі галоўнага бога ў язычніцкім міфалагічным пантэоне беларусаў — Велеса.

**4** (субота). **Кат.** *Свята св.Казімера.*

**5** (нядзеля). **Прав**. *Нядзеля сырапусная. Загавенне на Вялікі пост* (апошні дзень дазваляецца есці мяса).

**Ун**. *Першая нядзеля посту.*

**6** (панядзелак). **Прав**. *Пачатак Вялікага посту.*

**Народны каляндар**. Паласказуб ці Шыльны панядзелак — першы дзень перадвелікоднага сямітыднёвага посту, калі мужчыны шылам даставалі апошняе скаромнае з-паміж зубоў, а з пятроўскіх часоў пачалі выпалосквацъ яго ў корчмах гарэлкай. З гэтага дня ў хрысціян да Вялікадня не дазвалялася есці мяса, піць малако, спяваць, танцаваць, што дало жыццё баладным велікапосным песням трагічна-павучальнага, дыдактычнага характару: «Ой, далінаю шырокаю, нізінаю глыбокаю. Ой, там ішла Божа маці, свайго сыночка гукаючы, свайго сына шукаючы, свайго сына шукаючы».

**9** (чацвер). **Прав**. *Першае і другое аднойдзенне галавы Іаана Прадцечы. Народная назва Паўраценне.*

**Ун**. *Служба за нябожчыкаў.*

**Народны каляндар**. Дзень ушанавання дзежкі як сімвала ўрадлівасці і культу хлеба. Яе мылі, накрывалі наміткай, акурвалі, але хлеб не рашчынялі, а добра высушвалі, каб потым добра падыходзіла рошчына для хлеба.

**12** (нядзеля). **Ун**. *Другая нядзеля посту.*

**Народны каляндар.** *Збор, Ізбор, Узбор*, пра якога ў валачобнай песні спяваецца:

А ішоў напярод да й святы Ізбор,
А святы Ізбор — да бяжыць вада з гор,
А святы Ізбор — да бяжыць рыбка з нор,
А святы Ізбор — да й лемяхі купіў.

Гэта свята напамінала селяніну, што пара збірацца на самую адказную справу — сяўбу.

**13** (панядзелак). **Народны каляндар**. *Васіль і Марына*, калі забаранялася хатняя талака: прадзенне, ткацтва, валянне сукна і да т.п., або пачыналіся веснавыя земляробчыя клопаты.

## «Сакавік жаўрукоў гукае, бярозе сок пускае»



**14** (аўторак). **Народны каляндар.** *Аўдоцця Вясноўка* (Аўдакея, Аўдакей, Яўдока). «На Яўдокі з гор патокі», «На Аўдакею памідоры на расаду саджалі і на вокнах трымалі», У валачобных песнях спявалі:

Святы Аўдакей — веснавы сяток,
Веснавы святок — пераступ гадок.
У Аўдакея слядочкі
Пераступілі ўсе святочкі.

Тут яскрава гучыць матыў першага дня Новага года па сонечнаму календару, які з прыняццем хрысціянства быў пераасэнсаваны на Вялікдзень.

**14—17** — чатыры дні як водгук на сустрэчу Новага года ў старажытнасці, якая адбывалася вясной. Па іх, адпаведна, вызначалі характар надвор'я вясной (14), летам (15), восенню (16) і зімой (17).

**17** (пятніца). **Народны каляндар**. Герасім-ракоўнік (Герасім ракоў прыгнаў).

**18** (субота). **Прав**. *Памінанне нябожчыкаў.*

**19** (нядзеля). **Ун**. *Нядзеля крыжапаклонная.*

**Народны каляндар.** Язэп («Як святы Язэп кіўне барадою, дык зіма ўцякае ўніз галавою», «На Язэпа пагода — год ураджайны»).

**20—21**. *Дзень веснавога раўнадзенства.*

**22** (серада). **Прав**. *Сорак мучанікаў Севасційскіх.*

**Народны каляндар.** Саракі, калі прылятае сорак выраяў і канчаткова наступае вясна. «Святыя саракі — у поле саху валакі»; «На саракі ўжо не йдзі да ракі». Пяклі сорак жаваранкаў з цеста для дзяцей, якія на высокіх месцах вадзілі карагоды і падкідвалі печаных птушачак угару, каб яны хутчэй прынеслі цяпло. Гушкаліся на арэлях, прычым трэба было зламаць сорак пруцікаў і, скачучы на двух канцах, зламаць сорак дошчачак, перакінуць праз хату сорак трэсачак. Пяклі галеты ў выглядзе птушыных слядкоў, раскладвалі і клікалі сабаку. Чыю галету ён з'ядаў першай, тая дзяўчына, меркавалася, хутчэй выйдзе замуж. Дзяўчаты ў гэты час прыгаворвалі:

Вее, вее веснавы вецярок,
Прыйдзі, прыйдзі, мой міленькі,
Дам табе піражок
З мёдам, сычавою,
З ласкай дзявочаю.

Рабілі, калі магчыма, са снегу бабу, разбівалі яе на часткі з патрабаваннем «каб зіма на дзевяць месяцаў ад нас пайшла». У доказ таго, што яна ўжо прагнана, бралі старыя гаршкі і кідалі сваім блізкім на парог, прыгаворвалі:

Гаспадынька-журавінка,
Кідай сваю пражу,
Зіма ўжо прагнана.
Адчыняй вароты,
Заві нас у госці.

Гаспадыня частавала гэтых вестуноў вясны. З галетамі рабілі першае заворванне і зажынкі. На Саракі гаспадар, перш чым напаіць жывёлу з палонкі, піў ваду сам. З гуканнем спявалі:

Ай, ужо ж вясна, ай ужо ж красна,
Дай з стрэх вада капле,
дай з стрэх вада капле.
Дай із стрэх вада капле.
Ай ужо ж табе, ай ужо ж, хлапчынанька,
Вандрованька пахне, вандрованька пахне.
Дай вандрованька пахне.

Дзеткі звяртаюцца да старшых і спяваюць:

Благаславі, маці, вясну загукаці,
Зіму замыкаці, лецечка адмыкаці.
Дай жа, Божа, на жытачка род,
На статачак плод,
А людзям на здароўе.

**24** (пятніца). **Ун**. *Перадсвяцце Дабравешчання.*

**25** (субота). **Ун**. *Дабравешчанне.*

**Прав**. *Свц. Грыгорыя Дваяслова, Папы Рымскага.*

*Паміранне нябожчыкаў.*

**Народны каляндар**. Рыгор, «які спусціў ваду ў мора». У валачобнай песні пра яго спяваюць:

А святы Рыгор спусціў ваду з гор.
Ваду ў зямлю, а з зямлі — траву.

**26** (нядзеля). **Прав**. *Нядзеля крыжапаклонная.*

**Ун**. *Чацвёртая нядзеля Вялікага посту.*

**30** (чацвер). **Ун**. *Чацвер Вялікага Канону.*

**Прав.** *Дзень Аляксея, чалавека божага.*

**Народны каляндар**. Аляксей Веснавы, Цёплы. З ім звязана многа прыкмет. Бусел гаворыць: «На Аляксея хоць заб'юся, але з'яўлюся». Для рыбакоў «Аляксей сеці садзіць, лодкі смаліць, рыбу коліць», «На Аляксея рыба ідзе на нераст, карова — на верас, а бортнік — на хвою». А яшчэ «Аляксей сохі чэша, хамуты строіць». Дзяўчаты варажылі: «Святы Аляксею, я на цябе лён сею. Дай, Божа, знаці, з кім буду ў пары стаяці».

**Вядуць:**
**народны каляндар — В.ЛІЦВІНКА;**
**царкоўны каляндар — І.КРЭНЬ.**

Заснавальнік: ТБМ імя Ф.Скарыны.

АДРАС РЭДАКЦЫІ:

220029, г.Менск, вул.Чычэрына, 1

РЭДАКЦЫЙНАЯ КАЛЕГІЯ:
Эрнэст Ялугін — галоўны рэдактар, Лявон Баршчэўскі, Янка Брыль, Анатоль Бутэвіч, Вінцук Вячорка, Віктар Гайсёнак, Радзім Гарэцкі, Ніл Гілевіч, Аляксей Глушко, Сяргей Запрудскі, Анатоль Клышка, Уладзімір Ламека, Зміцер Санько, Яўген Цумараў, Генадзь Цыхун, Віктар Шніп.
Адказны сакратар Здзіслаў Ціцька.

Аўтары надрукаваных матэрыялаў адказваюць за дакладнасць фактаў і іншых звестак. Пункт гледжання аўтара можа не адпавядаць меркаванню рэдакцыі. Рукапісаў рэдакцыя не рэцэнзуе і назад не вяртае.

Індэкс 63865. Замова 305

Друкарня выдавецтва «Беларускі Дом друку».
220041, г.Менск, пр.Ф.Скарыны, 79.
М 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
П 1 2 3 4 5 6 7 8 9 10 11 12
Наклад 6850 паасобнікаў.
Падпісана у друк 27.02 1995 г
у 15 гадзін